


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

7 сакавіка 2003 года

№ 10 (411)
Выходзіць па пятніцах

плюс ТэлетыДзень


## Навіны рэгіёну

### Нашчадкі паэта

ВАЛОЖЫН. У аўторак прыязджалі нашчадкі Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча.

Гэта сваякі яго старэйшай дачкі Каміла, якія прыехалі з Амерыкі і Польшчы. Іх адшукаў ракаўчанін **Язэп Янушкевіч**. Госці пабывалі ў Малой Люцінцы, дзе паэт і драматург правёў большую частку жыцця, і на яго магіле ў Тупальшчыне.

Наталля ШТЭЙНЕР.

### Падарункі з Германіі

ВІЛЕЙКА. 8 сакавіка ў школе-інтэрнаце чакаюць гасцей з Германіі.

11 чалавек з горада Оберхаўзен, якія не першы год прыязджаюць у Вілейку, прывязуць падарункі выхаванцам дома-інтэрната. У адказ дзеці рыхтуюць святочны канцэрт.

Аксана ЛЯЎЧУК.

### Не супалі лічбы

АСТРАВЕЦ. Кандыдат у Гродзенскі абласны Савет дэпутатаў Іван Крук мяркуе, што ў Астравецкай выбарчай акрузе №46 былі парушаны Выбарчы кодэкс.

Аб гэтым ён напісаў у заяве на адрас старшыні Гродзенскай абласной камісіі і пракурору Астравецкага раёна. Галоўная прэтэнзія кандыдата – несупадзенне колькасці выбаршчыкаў у акрузе да і пасля галасавання.

Аддзел інфармацыі "РГ".

### Цацкі 85-гадовым

СМАРГОНЬ. У сераду тэрытарыяльны цэнтр абслугоўвання насельніцтва "Цёплы дом" пачаў акцыю-віншаванне з Днём 8 Сакавіка.

Падарункі - мяккія цацкі, калготкі і касметыку - атрымаюць 85-гадовыя бабулькі з Войстамскага, Каранеўскага і Крэўскага сельсаветаў.

Ірына РАБУШКА.

### Новы напой

МАЛАДЗЕЧНА. На півазаводзе выпусцілі пробную партыю напітку джын-тонік.

Як сказала намеснік дырэктара па вытворчасці Любоў Благавешчанская, джын-тонік паступіць у продаж да пачатку летняга сезона.

Ірына РАБУШКА.

### Юбілей «Нарачы»

МЯДЗЕЛ. У панядзелак адзначылі 40-годдзе санаторыя "Нарач".

Найстарэйшая здраўніца на курорце пачала функцыянаваць у 1963 годзе і належала тады спажывецкай каапераці. Цяпер гэта прафсаюзны санаторый. Самы каштоўны з падарункаў, што ўручылі госці на свяце, – відэакамера.

Алесь ВЫСОЦКІ.



*Са святам, мілыя жанчыны!*

# Лепшы музейны работнік

**ВІЛЕЙКА. Па выніках мінулага года Мінскі аблвыканкам адзначыў спецыяльнымі прэміямі і дыпломамі па сямі намінацыях лепшых работнікаў культуры і мастацтва, прадстаўнікоў творчай моладзі. У намінацыі "Музейная справа" прэміі ўдастоена старшы навуковы супрацоўнік Вілейскага гісторыка–краязнаўчага музея Вольга Коласава.**



Старшы навуковы супрацоўнік Вілейскага гісторыка-краязнаўчага музея Вольга Коласава ўдастоеная прэміі Мінскага аблвыканкома як лепшы музейны работнік года. Фота Ірыны РАБУШКІ.

З Вольгай Аляксандраўнай і гутару ў яе рабочым кабінеце, абстаўленым паліцамі з кнігамі і папкамі, скрыначкамі з рознымі картатэкамі. Гаваркая сімпатычная жанчына папярэдзіла:

– Пра мяне асобна пісаць нічога не трэба. У гэтым заслуга ўсяго нашага дружнага калектыву. А тое, што пад увагу трапіў менавіта наш музей, то лічу гэта выпадковасцю. Па чарзе, напэўна, хочуць адзначыць усе музеі вобласці, таму што кожны раённы гісторыка–краязнаўчы музей заслугоўвае ўвагі.

– Не скажыце, – не пагаджуся я. – У Беразіно, напрыклад, ўвогуле ніякага раённага музея няма. І адкрываць яго тамашнія мясцовыя ўлады, відаць, не думаюць.

– Ну, гэта выключэнне, – усміхнулася мая субяседніца. – На абласной нарадзе я пачула, што там ні на крок не прасунулася і стварэнне гісторыка–дакументальнай хронікі "Памяць". А мы гэту работу завяршаем.

Дарэчы, з верасня 1999 года Вольга Аляксандраўна з'яўляецца укладальніцай Вілейскай раённай кнігі "Памяць", якая сёлета павінна ўбачыць свет. Завяршаецца па ёй работа на падставе навуковых даследаванняў, праведзеных па ініцыятыве музея, дакументаў з дзяржаўных архіваў, шматлікіх публікацый у газетах, часопісах, кнігах, успамінаў удзельнікаў і сведак падзей, што адбываліся ў жыцці Вілейшчыны.

Выключная ўвага ў кнізе надаецца ўвекавечанню памяці тых, хто загінуў у гады Вялікай Айчыннай вайны, хто ў савецкі час трапіў пад палітычныя рэпрэсіі. Знойдуць шырокае адлюстраванне падзеі землякоў на франтах другой сусветнай вайны і ў тыле ворага, пры аднаўленні разбуранай гаспадаркі.

Менавіта над тэмай Айчыннай вайны і палітычных рэпрэсій у асноўным і працуе Вольга Коласава. А навуковы супрацоўнік **Наталля Яфімава** вывучае гісторыю горада.

Трэба быць апантаным, каб так любіць сваю справу. Хаця лёс звёў з музеем Вольга Аляксандраўна звязала выпадкова. Яна расказвае:

– У 1979 годзе я закончыла геаграфічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Дыпломную абараняла па краязнаўстве і турызме. Тэма нібы і звязаная з музеем, але далёкая ад яго асноўных функцый. Паколькі майго мужа Міхаіла (ён політэхнічны інстытут у Мінску закончыў) накіравалі ўдзельнічаць у завяршэнні будаўніцтва Вілейска–Мінскай воднай сістэмы, то і я паехала за ім. Работы па спецыяльнасці не было, і давялося ўладкоўвацца ў раённую бібліятэку. Тут я больш сур'ёзна зацікавілася гісторыка–краязнаўчай работай. Тым больш што Вілейшчына блізкая мне – я ж нарадзілася і вырасла ў вёсцы Малькевічы. А калі 30 ліпеня 1982 года выйшла пастанова ЦК КПБ "Аб заснаванні Вілейскага гісторыка–краязнаўчага музея", я задумалася аб пераходзе на новае месца работы. І калі дваццаць гадоў таму Хрысціна Шымакоўская была назначаная дырэктарам музея, я, нядоўга думаючы, смела адчыніла кабінет сакратара гаркома партыі Івана Харкевіча і кажу: "Хачу працаваць у музеі". Іван Паўлавіч маю прапанову падтрымаў.

З таго часу Вольга Коласава і працуе плячо ў плячо з Наталляй Яфімавай.

За дваццаць гадоў з дапамогай грамадскасці сабрана ўжо больш за 20 тысяч экспанатаў асноўнага фонду, пачынаючы ад каменнай сякеры і заканчваючы вырабамі сённяшніх народных умельцаў. Вольга Аляксандраўна, апроч вывучэння асноўнай тэмы, цікавіцца і сучасным ткацтвам.

Не кожны раённы музей можа пахваліцца фотаздымкамі стогадовай даўніны. А ў Вілейскім музеі яны ёсць – гэта работы вілейскага фотамастака Беркі Бермана.

На жаль, расказвае Коласава, шмат экспанатаў, якія б маглі ўзбагаціць музей, беззваротна страчаныя: або па няведанні іх уладальнікаў (колькі рэчаў проста спалена!), або з–за карыслівых дзеянняў асобных прайдзісветаў. Некалі, у сярэдзіне 60-х гадоў мінулага стагоддзя, з Мінска прыехаў такі дзеяч, які пад выглядам аказання паслуг у стварэнні музея сабраў каштоўныя рэчы і амаль з усімі знік з Вілейкі. А гэта былі і розныя скульптуры, у асноўным рэлігійнага значэння, зброя часоў І сусветнай вайны, і рэдкія кнігі па гісторыі Беларусі, і многае іншае. І толькі праз гадоў васемнаццаць задума аб стварэнні ў Вілейцы гісторыка–краязнаўчага музея, якая з'явілася яшчэ ў 1939 годзе, стала ажыццяўляцца. І пакуль тут будуць працаваць такія энтузіясты, як Вольга Коласава, жыць і расці музею.

P.S. На палях дадам, што музей патрабуе капітальнага рамонту, а грошай няма. Яны ў асноўным толькі і адпускаюцца на зарплату яго работнікам.

Барыс МАНЦЭВІЧ.

■ НАВІНЫ З ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

## 100 гадоў Грамадзе

**Споўнілася 100 гадоў Грамадзе, першай беларускай партыі.**

Ля вытокаў стварэння Грамады стаялі вядомыя дзеячы гісторыі і культуры Беларусі: Вацлаў Ластоўскі, Іван і Антон Луцкевічы, Алаіза Пашкевіч, Алесь Бурбіс ды іншыя. У сваёй першай праграме (1903 год) Грамада выказалася за стварэнне незалежнай Беларускай дэмакратычнай рэспублікі.

Прынагодна юбілею ГА «Фонд імя братоў Луцкевічаў» разам з ГА «Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны» выпусцілі кішэнны каляндарык на 2003 год, у якім выкарыстана карціна Аляксея Марачкіна «Іван Луцкевіч».

**І. ЛЯКСЕЕВА**

## Юбілей Гарэцкага

Таварыства беларускай мовы адзначыла 110-годдзе празаіка, драматурга, літаратуразнаўца, перакладчыка, лексікографа і фальклярыста Максіма Гарэцкага выпускам кішэннага каляндарыка на 2003 год.

Выява Максіма Гарэцкага змешчана на фоне Базыліянскіх муроў, дзе месцілася Віленская беларуская гімназія, у якой ён працаваў выкладчыкам.

Каляндарык выдадзены на ахвяраванні сяброў Таварыства. Яго можна пабачыць у сядзібе ТБМ, што на вуліцы Румянцава, 13.

**І. ЛЯКСЕЕВА.**

■ МІНУЛАЕ І СУЧАСНАСЦЬ

# Старажытны бакал

**МАЛАДЗЕЧНА. Бакал, які захаваўся яшчэ з XIX стагоддзя, знайшлі гаспадары ў сваім гародзе. Адбылося гэта падчас перакопкі зямлі ў прыватным сектары на вуліцы Велікасельскай. Ніна Гараніна прынесла яго ў Мінскі абласны краязнаўчы музей.**

Бакал гэты быў пабіты. Але захаваў сваю празрыстасць і чысціню шкла. Так як і выразнасць граняў. На ім добра відаць вінаградныя лісты, распісаныя золатам. Ён упрыгожаны медальёнам з гербам. Гэта ўказвае на тое, што бакал належыць нейкаму сямейству, роду. І, безумоўна, на яго каштоўнасць і дарагоўлю. Не кожнае ж сямейства магло дазволіць сабе мець уласны герб.

Па словах супрацоўнікаў музея, магчыма, бакал належыць Налібоцкай мануфактуры перыяду яе занядпаду (1860-ыя гады). Бакал з тоўстымі сценкамі спалучае ў сабе тры тэхнікі – граненне, шліфоўку і гравіроўку. Герб, што на ім, мае назву "Шрэнява". І ўзнік у XI стагоддзі ў сувязі з перамогай караля Баляслава Храбрага на рацэ Шрэнява. Яго ўладальнікамі былі 59 шляхецкіх родаў Рэчы Паспалітай (Балінскія, Александровічы, Бельскія, Красоўскія...).

У канцы XIX стагоддзя на тэрыторыі Беларусі былі 32 буйныя прадпрыемствы па вырабе шкла. Сярод іх і шклозавод "Барысаў".



Галоўны захавальнік фондаў Мінскага абласнога краязнаўчага музея Наталля Палтавец трымае ў руках копію старажытнага бакала. Побач ляжыць сапраўдны, які нядаўна знайшлі ў гародзе. Фота Ірыны РАБУШКІ.

Туды і звярнуліся, толькі ўжо на сучасны Барысаўскі шклозавод, супрацоўнікі музея, каб зрабіць копію гэтага бакала. Лепшыя майстры выконвалі работу ўручную. Але так і не змаглі паўтарыць старажытную знаходку. Нават не дасягнулі той празрыстасці шкла. А медальён і ўвогуле не атрымаўся.

**Ірына РАБУШКА.**

**Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны ў рамках месячніка «Любім і кахаем па-беларуску» абвяшчае конкурс на найлепшы апавед**

## «Як мы пазнаёміліся»

Маладыя людзі ва ўзросце да 25 гадоў прысылаюць апавед памерам 1 друкаваны ліст А4 пра тое, як яны пазнаёміліся. Мова знаёмства - беларуская. Дата знаёмства - да 17 лютага.

Можна дасылаць успаміны нават 15-гадовай даўнасці.

Пераможцы атрымліваюць прызы – кнігі, каляндарыкі. Супер-прыз – адпачынак пары маладых людзей на адным з курортаў Беларусі.

Аповед дасылаць да 15 сакавіка на адрас ГА «Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны»: 220005, г.Мінск, вул.Румянцава, 13. Тэл./факс 284-85-11.

■ СУСТРЭЧЫ

## Песня ў «Пілігрыме»

**МАЛАДЗЕЧНА. Сапраўднае свята аматарам аўтарскай песні зрабіла трыо "Фіеста", якая выступіла ў турысцкім клубе "Пілігрым".**

Аб чым бы ні пела "Фіеста" – гэта заўсёды задушэўна, шчыра і добра. Сёлета трыо адзначыць свой 10-гадовы юбілей. Словы віншаванняў яшчэ наперадзе, а ў той вечар артысты атрымалі пажаданне творчых поспехаў.

**Наталля ШЫНКЕВІЧ.**

■ СВЯТА

# Першы ранішнік у новым дзіцячым садзе ў Чысці

**МАЛАДЗЕЧНА. У сераду і чацвер прайшлі першыя ранішнікі ў новым дзіцячым садзе-яслях, што ў Чысці.**

Сад адкрылі ў апошнія дні мінулага года. Па сваёй матэрыяльнай базе ён лепшы ў вобласці. За гэтыя 2 месяцы ўстанова поўнасцю ўкамплектавана – 118 дзетак і 34 выхавальнікі.

У аўторак у музычнай зале праходзіла рэпетыцыя ранішніка, у якім будуць удзельнічаць усе выхаванцы сада. У праграме – танцы, песні, частушкі на рускай і беларускай мовах. Падрыхтоўкай займаецца мастацкі кіраўнік сада **Галіна Акульская**.

Да пераходу сюды 19 год працавала ў Маладзечанскім садзе №24.

Цяпер Галіне Уладзіміраўне лягчэй дабірацца да работы, яна жыве ў суседняй вёсцы Краснае. Скончыла музычную школу ў Радашкавічах, а пасля музычнае вучылішча. Грае на піяніна і акардэоне. Па яе слядах пайшла старэйшая дачка Марына, якая выкладае ў Мінскім індустрыяльна-педагагічным каледжы.

Малодшая Аляксандра вучыцца ў школе. Абедзве скончылі музычную школу. Падарункі да 8 Сакавіка дочкам яшчэ не падрыхтавала. Сама ў падарунак хоча атрымаць кветкі і касметыку.

На пытанне «Чаго не хапае ў самым ўладкаваным садзе вобласці?» Галіна Акульская адказала:

– Малавата метадычнай літаратуры. Але гэта нажывецца – сад і калектыў яшчэ малады. Добра было б, каб наладзілі піяніна. На ранішніку прыйдзецца іграць на разладжаным інструменце.

Галіна Акульская ўпэўненая, што бацькі, якіх запрасілі на ранішнік, прыемна здзівяцца, калі ўбачаць сваіх дзяцей, якія прадэманструюць свае таленты. Выхавальніца хацела б убачыць на тварах бацькоў усмешкі, а лепшай падзякай ад бацькоў – пачуць у свой адрас "Дзякуй!"

**Юрый КАРПІЦКІ.**



Мастацкі кіраўнік Чысцінскага дзіцячага сада-ясляў №2 Галіна Акульская. Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

■ ВЫСТАЎКІ

## Творчы дух зямлі

**МАЛАДЗЕЧНА. 28 лютага ў Мінскім абласным краязнаўчым музеі адбылося ўрачыстае адкрыццё выстаўкі "Творчы дух зямлі".**

Яна прысвечаная 45-годдзю з дня стварэння Маладзечанскага музычнага вучылішча імя Агінскага. У экспазіцыі прадстаўленыя работы навучэнцаў аддзялення дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. На адкрыцці выступіў дырэктар вучылішча **Рыгор Сарока**. Ён запрасіў прысутных на святкаванне круглай даты вучылішча, якое плануецца правесці ў канцы кастрычніка. Туды запросяць знакамітых выпускнікоў.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

■ КРЫМІНАЛ

# Жыццё за кратамі

**МАЛАДЗЕЧНА. 5 гадоў начальнік ізалятара часовага ўтрымання Маладзечанскага ГРАУС Васіль Сіняўскі назірае жыццё за кратамі. Ізалятар па выніках аператыўна-службовай дзейнасці лічыцца лепшым з 24 у вобласці.**

Ён разлічаны на 72 чалавекі. Арыштаваных прывозяць і з Вілейшчыны, Валожыншчыны, Мядзельшчыны. Бывае, што месцаў не хапае. Камера – нешта сярэдняе паміж парылкай ў лазні і падвальным памяшканнем. Драўляныя "голыя" нары. Цьмянае святло. Камера, здаецца, напоўнена парай. Але ў большай ступені – холадам. Сядзяць там па 2-6 чалавек.

У ізалятар трапляюць следча-арыштаваныя і адміністрацыйна асуджаныя. Апошніх выкарыстоўваюць на ўборцы тэрыторыі горада. Першыя проста сядзяць і чакаюць развіцця падзей, яны знаходзяцца пад следствам.

У 6 гадзін раніцы ў ізалятары пад'ём. І адпаведна – ранішняя праверка. Яна доўжыцца 2 гадзіны. У ёй удзельнічае фельчар. Дарэчы, маладзечанскі ізалятар — адзіны ў вобласці, дзе ёсць свой фельчар. Ён правярае стан здароўя арыштантаў. Па неабходнасці дае лекі, вымярае ціск. На кожны праверцы каму-небудзь патрабуецца дапамога. Нават у паліклініку возяць. У асобным адсеку машыны, у наручніках і ў суправаджэнні міліцыянераў. Маўляў, і арыштаваныя – людзі, ім таксама бывае балюча. Напрыклад, здараюцца прыпадкі, падчас якіх чалавек можа моцна прыкусіць язык і нават памерці. Супрацоўнікі ізалятара ведаюць, што рабіць у такім выпадку. Яны неадкладна заходзяць у камеру да чалавека і трымаюць яму галаву і ногі. А язык дастаюць лыжкай. Тым, у каго белая гарачка, выклікаюць псіхіятрычную брыгаду. Раз на месяц трапляюць у ізалятар наркаманы. Летась быў ВІЧ-інфіцыраваны маладзечанец. Каб не адбылося ў камеры непрадбачаных выпадкаў, за "падапечнымі" назіраюць праз спецыяльнае вочка, што ў дзвярах. Зазіраюць у яго не радзей, чым праз 15 хвілін.



Міліцыянер унутранага паста ізалятара часовага ўтрымання Маладзечанскага ГРАУС Генадзь Сыч кожныя 15 хвілін назірае праз вочка за арыштаванымі ў камеры.

Фота Ірыны РАБУШКІ.

Пасля ранішняй праверкі – сняданак. Потым выхады на месцы злачынстваў. І допыты. Яны праводзяцца прама ў ізалятары ў следчым кабінеце. Мэблі там мала. Усё моцна прыкручана. Нават тэлефон.

У гадзіну дня – абед, у 8 вечара – вячэра. Яду разносяць па камерах. Усё па раскладу, па камандзе, пад наглядам круглыя суткі.

У "вольны" час дэтэктывы, газеты чытаюць, фотаздымкі разглядаюць, што родныя перадалі. Правам перапіскі яны пазбаўленыя. Радыё ўключаюць на час навінаў. Але бамжам такое жыццё даспадобы, самі сюды просяцца.

Сярэдні ўзрост арыштантаў – 30 гадоў. 2% ад усёй колькасці – жанчыны. З вышэйшай адукацыяй сюды трапляюць рэдка. У асноўным з сярэдняй ці сярэдняй спецыяльнай. Злачынствы ў іх розныя. Часцей, гэта махлярства, крадзеж прадуктаў харчавання, рэчаў. Начальнік ізалятара шкадуе малалетніх злачынцаў. Уявіце, хлопцу 15 гадоў, а ў яго дзве судзімасці. Гаворыць: "Не пайду больш сюды". І зноў трапляе ў ізалятар. Да такога жыцця падлетак яшчэ псіхалагічна не падрыхтаваны. Арыштаваныя нават на іншай мове размаўляюць. Напрыклад, "кінуць маляву" — перадаць запіску на волю, "баландзёр" – чалавек, які разносіць ежу, "намазалі зялёнкай лоб" – прыгаварылі да смяротнага пакарання.

Цяжка выхоўваемых падлеткаў водзяць сюды на экскурсіі. Адным становіцца страшна. Іншыя кажуць: "А я ўжо тут быў. Вунь, на тых нарах ляжаў". Гавораць гэтыя словы з розным пачуццём: хто з абыякавасцю, хто з усмешкай, хто з гонарам.

Арыштаваныя знаходзяцца ў ізалятары прыкладна тыдзень. Потым іх гоняць па этапу. Спачатку ў Жодзінскі следчы ізалятар №8. А потым...

**Ірына РАБУШКА.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 27.02 руб. | 6.03 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 1969,00 | 1978,00 |
| Еўра | 2121,70 | 2169,47 |
| Злоты | 507,25 | 503,10 |
| Літ | 614,67 | 628,29 |
| Расійскі рубель | 62,30 | 62,61 |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1940/1965 | 1970/1990 |

Маладзечна

## Цэны на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 26.02 | 5.03 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 10900 | 11700 |
| Сасіскі, 1 кг | 3750 | 3750 |
| Селядзец, 1 кг | 2800 | 2800 |
| Рыс, 1 кг | 720 | 780 |
| Грэчка, 1 кг | 1100 | 1350 |
| Цукар, 1 кг | 1045 | 1045 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1250 | 1100 |
| Алей, 1 л | 1600 | 1700 |
| Маянэз, 200 г | 450 | 400 |
| Кава «Пеле, 100 г | 2000 | 2000 |
| Шпроты, бляшанка 160 г. | 700 | 750 |
| Соус там.«Мінскі», 0,5 л | 630 | 630 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 860 | 850 |
| Капуста, 1 кг | 720 | 750 |
| Морква, 1 кг | 900 | 800 |
| Лімоны, 1 кг | 2500 | 2350 |
| Апельсіны, 1 кг | 1650 | 1750 |

**Сялянскія прадукты**

| | | |
|---|---|---|
| Малако, 1,5 л | 700 | 650 |
| Смятана, 1 л | 2000 | 1800 |
| Масла, 1 кг | 3500 | 4000 |
| Тварог, 1 кг | 2000 | 2000 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1600 | 1600 |
| Бульба, 1 вядро | 3800 | 3800 |
| Яблыкі, 1 кг | 1200 | 1200 |

■ ВЫТВОРЧАСЦЬ

## Конкурс па ахове працы

**МАЛАДЗЕЧНА. Гарвыканком падвёў вынікі конкурсу сярод гарадскіх прадпрыемстваў па ахове працы.**

Сярод прамысловых прадпрыемстваў лепшымі прызнаныя працоўны калектыў камбіната хлебапрадуктаў, "Энвы", і фабрыкі мастацкіх вырабаў. Сярод прадпрыемстваў бытавога абслугоўвання ў конкурсе перамаглі "Маладзечнабыт" і "Сняжынка". Сярод будаўнічых арганізацый сёлета прызавыя месцы не прысуджаліся, бо, як заўважыў першы намеснік старшыні гарвыканкома **Яфім Ідэльчык**, летась у кожнай заўважаліся парушэнні правілаў аховы працы, якія не дазволілі адзначыць якоесьці прадпрыемства. Усе лаўрэаты атрымалі дыпломы.

З адмоўнага боку галоўны дзяржаўны інспектар Маладзечанскай міжраённай дзяржаўнай інспекцыі працы **Андрэй Квяткоўскі** адзначыў СП "Скарпіён". Старшыня гарвыканкома **Мікалай Чурсін** на апошнім паседжанні гарвыканкома параіў інспекцыі працы дапамагчы прадпрыемству ўхіліць недахопы. Андрэй Квяткоўскі адзначыў, што апошнім часам кіраўніцтва арганізацыі вырашыла 70% пытанняў.

За мінулы год на гарадскіх прадпрыемствах зарэгістраваны 31 няшчасны выпадак на вытворчасці, што на 8 менш, чым пазалетась. 7 выпадкаў былі з цяжкім зыходам. Асноўныя прычыны такіх выпадкаў – невыкананне кіраўнікамі і спецыялістамі абавязкаў па ахове працы і парушэнне патрабаванняў інструкцый па ахове працы самімі пацярпелымі. Гібелі людзей на вытворчасці не зарэгістравана.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

■ ДАІ ІНФАРМУЕ

## Асцярожней на дарогах

**МАЛАДЗЕЧНА. За 2 месяцы гэтага года на тэрыторыі горада і раёна адбылося 6 ДТЗ, дзе 1 чалавек загінуў і 7 паранена.**

Палова здарэнняў адбылася з удзелам пешаходаў, трэць – па іх віне. Сёлета ў вобласці самае страшнае здарэнне адбылося ў Слуцку. Вадзіцель "Аўдзі", каб пазбегнуць наезду на пешахода, які ішоў па праезнай частцы, прыняў экстраннае тармажэнне і пачаў яго аб'язджаць. "Аўдзі" вынесла на сустрэчную паласу, дзе машына сутыкнулася з рэйсавым пасажырскім аўтобусам, дзе знаходзілася 43 пасажыры. У выніку загінуў вадзіцель "Аўдзі" і пешаход, які быў віноўнікам здарэння. Пасажыр "Аўдзі" атрымаў цяжкую траўму.

Па статыстыцы, амаль палова ўсіх дарожна-транспартных аварый адбываецца па віне вадзіцеляў, якія маюць стаж да 5 гадоў. Яны часцей за іншых трапляюць у аварыі з-за недастатковых навыкаў у кіраванні транспартам, няўважлівасці і няўмення прадугледзець далейшае развіццё падзей пры ўзнікненні небяспечных абставін на дарозе.

**Уладзімір ЛУКАШЫК.**

■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

## 20 бутэлек гарэлкі

**МАЛАДЗЕЧНА. Невядомы злодзей выкраў 20 бутэлек гарэлкі і 2 банкі тушонкі.**

Усё гэта знаходзілася ў падвале аднаго з дамоў па вуліцы Віленскай.

## Аўтобус у вышуку

**МАЛАДЗЕЧНА. Супрацоўнікі міжрэгіянальнага экзаменацыйнага аддзялення выявілі мікрааўтобус, які знаходзіцца ў вышуку Мозырскага ГРАУС.**

Адбылося гэта, калі машыну ставілі на ўлік. Праводзіцца праверка.

## Забіў зяця

**МАЛАДЗЕЧНА. 26 лютага цесць забіў зяця.**

У хаце ўзнікла сварка. Раззлаваны цесць кінуўся на зяця з нажом. Забойца затрыманы. Узбуджана крымінальная справа.

## Змерз...

**МАЛАДЗЕЧНА. У апошні дзень зімы ў машыне "хуткай дапамогі" памёр мужчына 35-40 гадоў.**

Яго везлі з вёскі Асанава ў цэнтральную гарадскую бальніцу. Вынік ускрыцця паказаў пераахаладжванне. Асоба мужчыны ўстанаўліваецца.

## Пабіла вучня

**МАЛАДЗЕЧНА. У панядзелак тэхработніца пабіла 15-гадовага вучня.**

Гэта адбылося каля 6 гадзін вечара ў СШ №7. Праводзіцца праверка.

## Збывалі таблеткі

**МАЛАДЗЕЧНА. 26 лютага група па барацьбе з незаконным абаротам наркотыкаў выявіла, што ў аптэчным кіёску прадавалі таблеткі псіхатропнага тыпу.**

Было іх дзве ўпакоўкі. Кіёск месціцца ў дзіцячай стаматалагічнай паліклініцы. Праводзіцца праверка.

## Тры разы па галаве

**МАЛАДЗЕЧНА. 1 сакавіка гараджанін ударыў свайго знаёмага 3 разы сякерай па галаве.**

Здарэнне адбылося на глебе непрыязных адносін. Узбуджана крымінальная справа.

## Укралі, але знайшлі

**МАЛАДЗЕЧНА. У панядзелак невядомы выкраў машыну, якая стаяла на тэрыторыі станцыі "хуткай дапамогі".**

У той жа дзень яе знайшлі ў раёне вуліцы Ф.Скарыны,55.

## Адабралі 10 тысяч

**МАЛАДЗЕЧНА. 3 сакавіка каля гадзіны дня трое непаўналетніх адабралі 10 тысяч рублёў.**

Яны накінуліся на непаўналетняга, адабралі грошы, а потым пабілі яго. Нарад аддзела "Ахова" затрымаў рабаўнікоў.

**Падрыхтавала Ірына РАБУШКА.**

## Забойства ў вёсцы

МЯДЗЕЛ. 26 лютага ў вёсцы Нагаўкі знайшлі труп жанчыны. Аказалася, што яе забіў муж. Як часта бывае, адбылося гэта пасля сумеснага распіцця спіртнога, чым у сям'і, кажуць, грашылі.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Прастрэлілі кола

**МЯДЗЕЛ. Вечарам у нядзелю супрацоўнікам ДАІ давялося страляць, каб спыніць аўтамашыну.**

Аўтамабіль "Пежо" ўяўляў небяспеку дарожнаму руху, нават наезд амаль не здзейсніў. На патрабаванні "даішнікаў" не спыніўся. Мусілі праследаваць. Ля вёскі Шваквіты іншамарцы прастрэлілі кола.

Вадзіцель і пасажыры — усе былі п'яныя. Кіраваў машынай жыхар Пастаў, быў сярод пасажыраў і літовец.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

# Мінулае Маладзечаншчыны

**Ад рэдакцыі. Аўтар публікацыі Франц Світо даўно цікавіцца гісторыяй каталіцкіх святынь на тэрыторыі нашага рэгіёну, у прыватнасці - Маладзечна, а таксама звязанай з імі сістэмай адукацыі. Зразумела - гэтая тэма толькі адна фарба ў шматграннай палітры рэлігійнага жыцця і асветніцтва на нашай зямлі. Але без разумення ролі кожнай з канфесій у гісторыі нашага краю немагчыма ўявіць агульную яго панараму. Аўтар кранае і гісторыю настаўніцкай семінарыі, куды на вучобу прымаліся толькі праваслаўныя. Гэта таксама кантэкст агульнага развіцця адукацыі. Усё ўзаемаўвязана, і адно не выключае іншае.**

Пакуль не здабытыя дакладныя навуковыя звесткі з'яўлення ў Маладзечне першай каталіцкай святыні. У даследаваннях па гісторыі абарончага замка ў Маладзечне ёсць успаміны аб тым, што на яго тэрыторыі ў XVII і XVIII стагоддзях існавала мураваная святыня размерам у плане 24х11 метраў, размаляваная фрэскамі. Аднак да якой канфесіі яна адносілася – не ўстаноўлена.

Калі меркаваць, што тым часам у тутэйшай мясцовасці існавалі ўжо рымска-каталіцкія касцёлы: з 1434 года ў Хоўхаве, з 1475 – у Лебедзеве, з 1500 – у Красным Сяле, з 1522 – у Хажове, то гэтая святыня магла быць касцёлам.



Касцёл Святога Юзафа ў Маладзечне. Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

### Касцёл Марыі Панны

Новы касцёл у Маладзечне, пабудаваны па фундушы кашталяна трокскага Тадэвуша Агінскага і яго жонкі Ганны з Радзівілаў, быў кансэкраваны 9 верасня 1758 года пад тытулам нараджэння Найсвяцейшай Марыі Панны. Касцёл быў узведзены непадалёк ад замка (цяперашняя вуліца Замкавая). Мяркуецца, што пабудавалі новы драўляны касцёл на старым касцельным пляцы, яго камены падмурак закладвалі на "новым падсляпенні".

Да канца XVIII стагоддзя комплекс кляштара, абнесены каменнай агароджай з брамамі, уключаў драўляны касцёл, двухпавярховы мураваны кляштарны корпус, двух'ярусную драўляную званіцу, два драўляныя флігелі, шпіталь і іншыя гаспадарчыя пабудовы.

Пры кляштары была вялікая бібліятэка (994 тамы), існавала брацтва Езуса Назарэтанскага, дзейнічала парафіяльная школа на фундушы манахаў-трынітарыяў.

У 1823 годзе касцёл цалкам згарэў ад удару маланкі, застаўся толькі падмурак. Аднавіць яго не ўдалося. Пасля былі рэканструяваныя ў стылі класіцызму закрыстыя і хоры (разабралі перакрыцце паміж імі), з заходняга тарца зрабілі ўваход, над ім узвялі трох'ярусную чацверыковую вежу-званіцу, завершаную чатырма пінаклямі і шатром пад маленькай галоўкай з крыжам. Такім чынам быў атрыманы аб'ём каля 14,5х7,5 м, асветлены 8-ю высокімі арачнымі вокнамі, які стаў санктуарыям новага касцёла.

### Шляхецкае вучылішча

З Маладзечанскім кляштарам, з князямі Агінскімі цесна звязана змястоўная гісторыя станаўлення і развіцця асветы ў горадзе.

У Бабруйску ў зачыненым іезуіцкім кляштары царскі ўрад з 1807 па 1810 гады абсталёўваў ваенную крэпасць. Узнікла пытанне аб пераводзе ў іншы горад размешчанага ў кляштары павятовага шляхецкага вучылішча. У Віленскім універсітэце былі тры варыянты: Паставы Віленскай губерні, Глуск Мінскай губерні і Свіслач Гродзенскай губерні. Па хадайніцтву Францішка Ксаверы Агінскага, вядомага для свайго часу літаратара і мастака (дзядзькі кампазітара і дыпламата Міхала Клеафаса Агінскага), шляхецкае павятовае пяцікласнае вучылішча 26 жніўня 1811 года было пераведзена ў Маладзечна, якое ён размясціў у сваім замкавым палацы.

Вясной 1814 года Францішак Ксаверы Агінскі памёр. Усё перайшло кампазітару-сенатару Міхалу Агінскаму.

Вясной 1815 года пачаўся рамонт палаца, які ў вайну 1812 года быў пашкоджаны. Вучылішчу кампазітар аддаў палову палаца для размяшчэння ў ім двух класаў. Для астатніх класаў дабыў плошчу ў кляштары. Перадаў вучылішчу бібліятэку і значную колькасць музычных інструментаў.

З-за старасці палаца ў 1816 г.вучылішча цалкам перасялілася ў будынак кляштара. З гэтага часу аж да канца 1831 года тут адначасова размяшчаліся дзве навучальныя ўстановы – парафіяльная школа і павятовае шляхецкае вучылішча.

Акрамя гэтага, з лютага 1812 года ў будынку кляштара знаходзілася паштовая станцыя, падпарадкаваная наглядчыку вучылішча.

У вучылішчы навучаліся дзеці дваран, уніяцкіх святароў, пісарыў, а таксама чэнікаў, даваліся ўрокі і для беднаты. Выкладанне вялося на польскай мове з гімназічным курсам навучання пад куратарствам Віленскага універсітэта. Тут выкладалі прафесары з Варшавы, Пецярбурга. Вучыліся ў гэтай школе Аляксандр Тушынскі – крытык і прафесар галоўнай школы ў Варшаве, Антоні Мухлінскі – прафесар і дэкан Пецярбургскага універсітэта, сярод яго выпускнікоў у 1815 годзе быў і Тамаш Зан – будучы таленавіты матэматык і паэт.

У красавіку 1831 года Маладзечна было занятае царскімі войскамі, а ў ліпені арыштавалі настаўнікаў і частку навучэнцаў. Пратрымаўшы 8 месяцаў пад судом, усіх настаўнікаў звольнілі.

У канцы 1831 года быў закрыты кляштар у Маладзечне, адначасова былі зачыненыя шпіталь і парафіяльная школа, што існавала пры ім. Была зачыненая і паштовая станцыя.

Вучылішча не было зачыненае. Для яго былі перададзеныя ўсе пабудовы кляштара, за выключэннем трох пакояў на першым паверсе, аддадзеных пад плябанію касцёла.

У 1832 годзе быў зачынены Віленскі універсітэт.

У 1834 годзе ў Маладзечанскім павятовым шляхецкім вучылішчы была ўведзеная агульнаруская праграма гімназій.

Па рэвізіі папячыцеля вучэбнай акругі ў 1853 годзе вучылішча было знойдзена "дурным во всех отношениях".

У 1860 годзе вучылішча было ператорана ў 5-класную прагімназію. Гэта таксама нічога не змяніла, толькі дало доступ у яе дзецям праваслаўнага духавенства. Большасць навучэнцаў была каталікамі.

Паўстанне 1863-1864 гадоў таксама захапіла Маладзечанскую прагімназію. Ужо ў 1861 годзе яе навучэнцы "распевали в своем костёле революционные гимны". Па распараджэнні віленскага генерал-губернатара графа М.М.Мураўёва 1 ліпеня 1863 года яна была закрыта, яе будынкі і сядзіба ўзятыя пад казну.

У 1864 годзе касцёл быў зачынены, а яго будынак у 1865 годзе перабудавалі ў царкву.

### Настаўніцкая семінарыя

25 чэрвеня 1864 года на базе прагімназіі была заснавана, а 8 лістапада 1864 года (у дзень анёла віленскага генерал-губернатара М.М.Мураўёва) адкрыта першая ў Расіі настаўніцкая семінарыя, якая рыхтавала настаўнікаў пачатковых школ і вучылішчаў. У яе прымаліся юнакі не маладзей 16 гадоў праваслаўнага веравызнання, якія мелі за плячыма пачатковую школу.

У будынку семінарыі была свая царква. Займала яна два паверхі левага крыла. Над царквой ўзвышалася званіца з адным вялікім званом і некалькімі меншымі.

Пры семінарыі мелася бібліятэка, у якой налічвалася 3500 тамоў. Колькасць прачытаных кніг даходзіла да 40 на вучня.

У асобным вялікім драўляным будынку ў 1860 годзе было заснаванае пачатковае народнае вучылішча, якое ў 1865 годзе было далучана да семінарыі ў якасці ўзорнага. У ім выпускнікі апошняга курса праходзілі практыку. У вучылішча прымалі хлопчыкаў і дзяўчынак, якія дасягнулі 10-гадовага ўзросту. Існавалі тры класы, дзе займалася прыблізна 50 чалавек. Некаторыя з вучняў вучылішча пазней станавіліся семінарыстамі.

Тэрмін навучання ў настаўніцкай семінарыі быў спачатку 2, з 1870 года – 3, а з 1907 – 4 гады.

З 1865 года ў семінарыі існаваў свой хор, які лічыўся лепшым на Беларусі. Кіраваў хорам настаўнік рускай мовы магістр духоўнай акадэміі Ю.Ф.Крачкоўскі (у далейшым вядомы этнограф і фальклорыст).

У 1870 годзе пры семінарыі была заснаваная метэаралагічная станцыя для назірання за вільготнасцю, тэмпературай, ападкамі, напрамкамі ветру.

У 1900-1907 гадах у семінарыі быў свой сімфанічны аркестр, які заснаваў настаўнік музыкі Карл Дандо, чэх па нацыянальнасці. Пасля яго смерці аркестр распаўся.

У семінарыі была заснаваная першая казённая медыцынская ўстанова ў горадзе. З 1879 года ў ёй пачаў працаваць фельчар, а ў 1881 годзе ўвялі штатную адзінку доктара. У 1886 годзе адчыненая аптэка і адна палата для хворых.

Семінарысты мелі свой тэатр (1906-1911). Аднак у час пажару ў 1911 годзе маёмасць тэатра згарэла. У 1910 годзе пры семінарыі быў заснаваны педагагічны музей.

У 1915 годзе ў сувязі з набліжэннем фронту семінарыя была эвакуіравана ў Смаленск. У час вайны былі знішчаны яе бібліятэка і музей. У 1923 годзе яна пераехала ў Мсціслаў.

За 50 гадоў існавання семінарыі ў Маладзечне ў ёй займалася 2045 чалавек (сялян – 1896, з сем'яў святароў, чыноўнікаў і вайскоўцаў – 150). Поўны курс навучання закончылі 954 чалавекі.

### Паміж дзвюма войнамі

У 1919 годзе будынак касцёла пры былым кляштары вярнулі каталікам. Пасля рэстаўрацыі касцёл асвяцілі пад тытулам Святога Казіміра. Побач з касцёлам на скрыжаванні вуліц Замкавай і Афіцэрскай з'явілася прыдарожная цагляная капліца.

Восенню 1919 года ў Маладзечне быў створаны школьны камітэт на чале з ксяндзом Баляславам Гудэйкам з мэтай адкрыцця сямікласнай рэальнай польскай гімназіі пад назвай "Вызваленне". Дырэктарам быў прызначаны Ян Барніцкі. Размяшчалася гімназія ў чыгуначным будынку. Праіснавала навучальная ўстанова толькі некалькі месяцаў, а ў ліпені 1920 года была зачыненая ў сувязі з адступленнем польскіх войскаў.

Па Рыжскім мірным дагаворы Маладзечаншчына адышла да Польшчы. У ліпені 1922 года Маладзечна пакінула 9-я польская дывізія, якая размяшчалася ў будынку былога кляштара і блізкіх да яго дамах. У гэтых памяшканнях 5 кастрычніка 1922 года адкрылася гімназія. 5 сакавіка 1923 года ёй было нададзена імя Тамаша Зана. Па задуме ініцыятараў, імя Тамаша Зана павінна было звязваць гісторыю адроджанай гімназіі з ранейшай Маладзечанскай шляхецкай павятовай школай.

У 1925 годзе гімназіі быў нададзены статус дзяржаўнай. У 1926 годзе ў гімназіі створаны літаратурна-навуковы гурток, а крыху пазней – гістарычны і краязнаўчы. Адчынілася гімназійная бібліятэка і пазычковая дапаможная каса для набыцця падручнікаў і школьных прыналежнасцяў. У 1928 годзе гімназія набыла правы навучальнай установы поўнага гуманітарнага тыпу. У ёй меліся чатыры гімназічныя класы і два класы ліцэя.

У гімназіі наладжваліся публічныя канцэрты і літаратурныя вечары, ставіліся спектаклі. Усе гэтыя мерапрыемствы ажыўлялі тагачаснае жыццё мястэчка, стваралі маральны і духоўны клімат.

У 1937 годзе ў сценах гімназіі навучалася 200 чалавек і ў ліцэі – 50. У той жа час за вучобу ў гімназіі трэба было плаціць 200 злотых штогодна.

У канцы кастрычніка 1939 года гімназія была ліквідаваная. На яе месцы было адчыненае педагагічнае вучылішча імя Я.Купалы, якое праіснавала да чэрвеня 1941 года.

### Сучаснасць

Будынак касцёла Святога Казіміра моцна пацярпеў падчас другой сусветнай вайны. Пасля вайны яго разбурылі, а на яго месцы пабудавалі ліцейны цэх станкабудаўнічага завода. Ад святыні часткова захаваліся толькі сцены бакавых фасадаў. Была знішчана і прыдарожная капліца. Будынак былога кляштара прыстасаваны пад заводскія памяшканні. У 1984 годзе на яго будынку ўстаноўлена мемарыяльная дошка ў гонар былых навучэнцаў настаўніцкай семінарыі.

Пробашч касцёла Святога Казіміра Баляслаў Лазоўскі па разбурэнні святыні працаваў ксяндзом-дэканам пры касцёле Святога Юзафа ў Маладзечне. Калі і гэты касцёл зачынілі і разбурылі ў 1961 годзе, ён да сваёй смерці (1967 год) адпраўляў малітвы ў сваёй цеснай кватэры па вуліцы Афіцэрскай.

Па заяве вернікаў у 2001 годзе Маладзечанскі гарвыканком зарэгістраваў рымска-каталіцкі прыход (парафію) у імя Святога Казіміра, які да пабудовы свайго касцёла размяшчаецца ў касцёле Святога Юзафа.

**Падрыхтаваў Франц СВІТО, кандыдат медыцынскіх навук.**

# Беларуска з Будслава

**Прапануем пазнаёміцца з успамінамі Анелі Катковіч — ураджэнкі мястэчка Будслаў, чые маладыя гады прыпалі "на польскі час". Апісвала сваё жыццё Анеля прыблізна ў 1967–1973 гг. Як даводзіць аўтарка, з надзеяй, што можа хто з родных пачытае, пабачыць "як многа слабы чалавек можа перанесьці, як асьцярожна трэба йсьці жыцьцёвым шляхам, як многа трэба працаваць і вучыцца". Мемуары Анелі Катковіч разам з успамінамі яе сястры Вэранікі выдадзены ў Беластоку ў 1999 годзе. Падаём некаторыя ўрыўкі з успамінаў Анелі з захаваннем правапісу арыгінала.**




*«Прыйшла я на сьвет у 1914 г. у малым мястэчку Будславе, паложаным у даліне, акружанай лесам, палямі й балотам. Знаходзілася яно паміж старой Вілейкай а Глыбокім, на Віленшчыне. Пасярэдзіне Буды, так называлі нашае мястэчка старыя людзі, быў вялікі квадратны рынак, з вуглоў каторага ўва ўсе бакі разыходзіліся вуліцы».*

**Пасля смерці маці Анеля выехала ў Вільню, вучылася ў Віленскай Беларускай Гімназіі, а на вакацыі прыязджала дадому альбо да сваякоў.**

**Працягвала адукацыю Анеля Катковіч у Віленскім унівэрсітэце, дзе вывучала класічную філалогію,а потым — гісторыю. Запісалася я ў Беларускі Студэнцкі Саюз. Удзельнічала ў розных імпрэзах, нават рэдагавала дзіцячы часопіс. У 1939 годзе, як распачалася вайна паміж Германіяй і Польшчай, Анеля вярнулася ў Будслаў.**

**Пасля прыходу немцаў на Анелю Катковіч пачалі ісці даносы, быццам бальшавічка, бо працавала ў беларускай школе. Змушана была з'ехаць у Мінск. Уладкавалася перакладчыцай у гарадскую ўправу. Пасля вайны апынулася ў Берліне. У 1949 годзе яе выклікалі нібыта па службовых справах у Варшаву, дзе арыштавалі. У рэшце рэшт, апынулася ў Мінску, дзе яе прыгаварылі да 10 год папраўчых работ. Выслалі ў Тайшэцкія лагеры паблізу Байкала. Працавала на лесапавале, на распрацоўках слюды. Вызвалілася на другі дзень Каляд 1955 года. Вярнулася ў Будслаў, дзе пражыла колькі месяцаў. Потым пераехала ў Польшчу. Жыла ў Варшаве, працавала ў Міністэрстве Замежных Справаў ПНР, была сябрам Беларускага Грамадзка–Культурнага Таварыства. Памерла ў 1982 годзе.**

"Прыйшла я на сьвет у 1914 г. у малым мястэчку Будславе. Раз у год, 2 ліпеня, адбываўся тут фэст і тады зьяжджалася шмат людзей у Буду. Адны ехалі, каб прадаць свае тавары, а іншыя сьпяшылі памаліцца ў касьцёле. Перад касьцёлам заводзілі на ўсе галасы розныя калекі. Праз цэлы тыдзень зьяжджаліся людзі на кірмаш гэты. Касьцёл быў перапоўнены. Многія ад парога да алтара паўзьлі на каленях. Расказвалі людзі пра розныя цуды, якіх дазнавалі пасьля гарачай, шчырай малітвы.

**Раз у год у Буду зьяжджалася шмат людзей . Адны ехалі, каб прадаць свае тавары, а іншыя сьпяшылі памаліцца ў касьцёле.**

### Дом наш

Дом наш знаходзіўся на Зосінскай вуліцы — так тады яна называлася — недалёка ад рынку. Перад домам стаялі векавыя бярозы й дуб. На падворку была студня, а за ёй садзік, у якім расло некалькі груш, яблынь і вішань. За домам былі пуня, хлявы, падпаветка й сьвіран. Дом быў невялікі з ганкам. Уваходзілася ў яго ад панадворка – адразу ў сені. Направа была кухня, а па левым баку пакой і спальня. У сенях стаяла драбіна па якой уваходзілася на гару. Напроціў ганку уваходзілася сьпіжарня з пограбам на бульбу.

Калі я нарадзілася, сям'я нашая складалася з бацькоў — маткі й бацькі, дзядоў і брата Пётруся – два гады ад мяне старэйшага. Паявілася я на сьвет сусьветнай вайною. Праз наша мястэчка праходзіў фронт і мама мусела з малымі дзяцьмі хавацца ў лесе або пад касьцёлам. Тату на вайну забралі. Пакажацца, бывала, дома на тыдзень ці два й зноў ад'яжджае.

**Дом наш быў невялікі з ганкам. Уваходзілася ў яго ад панадворка – адразу ў сені. Направа была кухня, а па левым баку пакой і спальня. У сенях стаяла драбіна па якой уваходзілася на гару.**

### Як бывае вайной

Ведама, як бывае вайной. Часта не хапала нават хлеба, а цукру людзі й ня бачылі. Жыцьцё праходзіла ў нэрвах і страху. Тымчасам сям'я нашая павялічылася. Паявілася сястра Вэра, а пасьля Ліначка. Апошняя была вельмі прыгожая, мудрая й пацешная. Таму можа й не жыла доўга. Хутка памерла. Адышлі ад нас назаўсёды бабуля й дзядуля. Зараз пасьля вайны нарадзілася Гэльця. Яна была таксама вельмі прыгожая, але нейкая іншая, як усе астатнія дзеці. Была вельмі музыкальная й ад малых гадоў засьпявала адразу кожную пачутую мэлёдыю.

### Малая гаспадарка

У 1925 годзе прыйшоў на сьвет Франак — любімец бацькоў і нас усіх. Мелі мы невялікі кавалак зямлі, малую гаспадарку: дзьве каровы, пару сьвіней, курэй. Спачатку й конь быў, але пасьля яго ня стала. Тата працаваў у кааператыве – пазьней зарабляў мулляркай, а мама гаспадарыла дома. Сама яна абшывала сябе й нас усіх.

Як-жа моцна любіла я сваю

**Усё лета хадзілі мы ў лес па ягады й грыбы. Часамі спраўляліся сходзіць два разы ў дзень. А было нам тады па 6-8 гадоў.**

Маму! Хадзіла за ёй усьлед. Была яна жанчынай прыгожай, высокай і добрай, як анёл. Умела многа баек і расказвала нам іх прадчуы. Як прыемна было яе слухаць! Умела многа песень і часта сьпявала. Тата таксама сьпяваў прыгожа, нават сола ў касьцёле.

Жылі бацькі з сабою добра. Тата памагаў маме ў рабоце. Ён заўсёды сам хлеб мясіў, дзёр на тарцы бульбу на бліны і г.д. Летам тата хадзіў брадзіць рыбу й прыносіў многа прыгожых шчупакоў, карпаў і плотак. Мы, дзеці, таксама памагалі бацькам у працы. Хадзілі далёка ад мястэчка па траву для сьвіней. Секлі прынесеную ў мяшках траву ў карыце, я даіла карову й памагала жаць. Усё лета хадзілі мы ў лес па ягады й грыбы. Часамі спраўляліся сходзіць два разы ў дзень. А было нам тады па 6-8 гадоў. Восеньню памагалі мы выбіраць бульбу на полі і ў агародзе, выкопваючы яе зь зямлі рукамі. Зразумела, зьдзіралі пры такой рабоце на пальцах маладую скуру. Нягледзячы на гэта любілі хадзіць на поле, бо тады там раскладалі агонь і пяклі бульбу.

### Мне хацелася, каб наша хата стаяла над рэчкай

Хаця мы многа працавалі, знаходзілі час і на розныя гульні. Бегалі, гулялі ў хованкі, сьпявалі песьні. На мае імяніны сабіралася дзяўчат поўная хата, а мама накрывала стол і частавала сябровак рознымі смачнымі рэчамі. Летам любілі мы хадзіць на рэчку і ў ёй плюскацца. Вельмі рана навучылася я плаваць. Колькі на гэтай рэчцы было гоману, крыку й піску! Старэйшыя жанчыны прыносілі сюды бялізну паласкаць і білі па ёй пранікамі. Мужчыны вудзілі рыбу. Як жа на нашай канаве было весела! Мне хацелася тады, каб наша хата стаяла над самай рэчкай.

Маючы паўтара года прайшла я моцнае запаленьне лёгкіх. Таму я была заўсёды худзенькая й слабая. Мамачка хутчэй мне, як каму іншаму давала лішняе яйка ці кубак малака.

Дома гутарылі мы па-беларуску, а ў школе вучыліся папольску, але на перапынках размаўлялі мы з сабою на роднай мове. Вучылася я добра. Калі была ў першай клясе, тады за найменшае правіненьне білі па „лапе" лінейкай і стаўлялі ў куток на калені, часта на гарох. Таксама зачынялі ў цёмнай каморы. У школе адрозьнівалася я вельмі прыгожым голасам. Сьпяваць я любіла й часта сьпявала на просьбу настаўніцы ці вучняў у час якіх-небудзь ручных работ. Сьпявала я і ў касьцельным хоры, разам з дарослымі й сваім бацькам. Брала самыя высокія ноты, арганіст ня мог надзівіцца. Аднаго дня сарвала я свой голас. Усё-ж, будучы гімназісткай і студэнткай, сьпявала я яшчэ дзесяць гадоў у хоры Рыгора Шырмы .

### Асталіся адны

Калі я дайшла да шостай клясы пачатковай школы, на нашу сям'ю пасыпаліся розныя няшчасьці. Захварэў наш тата. Аднойчы адабрала яму мову. Вярнуўся з работы ня могучы прагаварыць ні слова. Пасьля прыйшоў да сябе. Зараз хутка прастудзіўся памагаючы гасіць пажар у мястэчку й захварэў на запаленьне лёгкіх. Як лёг у пасьцель, так больш і не падняўся. Хварэў больш года. Бяда запанавала ў нашай хаце. Палову дому ад вуліцы занялі кватаранты, а мы ўсёй сям'ёй —разам сем асоб —памясьціліся ў кухні. У ёй стаяла вялікая печ, вёдры з вадой, цэбар з пойлам для кароў, стол, шафа, лава й ложак. Была ў нас тады толькі адна карова. Мы, дзеці, спалі на печы, мама на палку за печай, а тата на ложку.

...На першы дзень Вялікадня 31 сакавіка 1929 года, калі званілі касьцельныя званы на рэзурэкцыю, памёр наш тата ...

Асталася бязрадная мама й пяцёра малых дзяцей. Было тады маме 37 гадоў".

### Наш Будслаў называлі сталіцай Беларусі

"Цёця Гэлька мела трох сыноў старэйшых ад мяне й давалі вялікую хату. Вось у гэтай хаце, калі я прыяжджала, сабіралася моладзь мястэчка. Прыходзіла двух Чантарыцкіх Мецька й Гэнюсь, Чэсь Васілевіч, Чэсь Грышкевіч, Ян і Казік Краўчонкі, Чэсь Ханяўка, Тома Грышкевіч, Казік Чантарыцкі, Болюсь Пляшкун і іншыя. Зь дзяўчат прыходзіла Валя Катковіч — мая сястра стрыечная, Анелька Сьмігельская, Янка Хацяновіч, Зося Сьмігельская й Зося Грузд, Франя Грышкевіч, Маня Лупіновіч і іншыя. Сабраўшыся сьпявалі мы беларускія песьні — рукаводзіў намі Мецька Чантарыцкі, гулялі ў розныя гульні, як тэлефон, калі зьбіралі фанты, танцавалі. Перад Новым Годам усёй грамадой ішлі заваліваць. Так завалілі бярвеньнямі й чым папала чыесь дзьверы, што рана не маглі выйсьці з хаты. Такі быў у нашым мястэчку звычай. Таксама замянялі шыльды пры розных крамах і ўстановах. Дзе была пякарня, там павесілі шыльд мясной крамы, на пошту павесілі шыльд рэстарана і г.д. Бываў разам з намі і вучыцель нашай гімназіі прафэсар Вінцэнты Грышкевіч. Калі я ад'яжджала ў Вільню, усё гэта таварыства праводзіла мяне на станцыю.

У нашым мястэчку шмат было сьведамых і шчырых беларусаў. І ня толькі тыя, якія вучыліся ў беларускай гімназіі, але таксама й вучні школ польскіх, як Чантарыцкія, Краўчонкі; Ханяўка, Тамаш Грышкевіч, Будзькі, Мядзёлкі былі вучнямі гімназіі беларускай. Мы любілі беларускія песьні й толькі такія сьпявалі. Вечарыны зачыналі ад лявоніхі. Сьпявалі на чатыры галасы. Летам выходзілі ў жыта й там заводзілі. А трэба сказаць, што ў Будславе было многа польскага войска й кругом было чуваць і польскую мову. Шмат дзяўчат выйшла за вайсковых замуж. Усё ж-такі не забывалі й сваёй мовы.

Наш Будслаў называлі сталіцай Беларусі. Можа й слушна. Тут была арганізавана пасьля І сусьветнай вайны беларуская гімназія. З Будслава паходзілі шчырыя патрыёты Беларусі — Эдвард Будзька, Язэп Гапановіч , Вінцэнты Грышкевіч і іншыя. Перад домам Гапановіча яшчэ да вайны ігра̂ў аркестр на загад цара, а на чэсьць знанага Юзэфа, за ягоныя подзьвігі ў час вайны. З Будслава паходзіць пляменьнік Будзькі, ведомы цяпер пісьменнік Эўгенiюш Паўкшта. З Будслава была таксама й мая стрыечная сястра Паўліна Мядзёлка. Часта можна было ўбачыць у Будславе беларускую п'есу на сцэне, іграную артыстамі-аматарамі. Будслаў называлі малым Парыжам, бо мода прыходзіла з захаду раней у наша мястэчка, як у вялікі горад. У Будславе былі два духавыя аркестры — вайсковы й пажарны. Будслаўскія людзі праславіліся і ў Амэрыцы. Іх спаткаць можна ва ўсім сьвеце".

**З Будслава паходзілі шчырыя патрыёты Беларусі — Эдвард Будзька, Язэп Гапановіч , Вінцэнты Грышкевіч і іншыя.**

### Праца ў школе

"Пачала я працаваць у будслаўскай школе. Са мной разам былі настаўніцамі Люня і Ірка Будзькі, а таксама настаўнічаў Ірын муж. Вучыць пачалі пабеларуску. Выкладала я беларускую й нямецкую мовы. Наканец вярнулася ў сваю родную хатку й сабрала сваю сям'ю ў вадно месца. Прыехаў Пётрусь з Латвіі, вярнулася з Лунінца Вэра, прыбылі Гэльця й Франак. Вялікім ударам для нас у гады савецкай улады быў вываз дзядзькі Адольфа, брата таты, зь сям'ёй у Казахстан. Многа людзей нявінных тады вывозілі ў Казахстан ці далёкую Сібір. А вывазы гэтыя былі страшней пахаранаў. Адрывалі людзей ад родных хат, ад роднага мястэчка й блізкіх сэрцу. Плакалі тыя каго вывозілі й плакалі тыя, якія асталіся. Людзі страцілі спакой. Ніхто ня быў пэўны заўтрашняга дня. Найменшы шэлест за акном ці дзьвярыма выводзіў з раўнавагі. Забралі Лёньку — сына цёткі Гэлькі. Што некалькі дзён кагось забіралі. Ніхто ня ведаў за што. Людзі пачалі чакаць зьмены.

У школе працавала я шчыра. Усе свае маладыя сілы пасьвячала вучням. Спачатку жыла пры школе. Назначылі мяне дырэктарам школы й завучам. Выбралі дэпутатам у сельсавет. Мусела хадзіць па вёсках і аб'ясьняць канстытуцыю СССР, намаўляць людзей да працы пры будове аэрадрома, прымаць удзел у розных сабраньнях. Ніхто ня ведае, што тады адчувала й зь якой ахвотай усё гэта рабіла! Трэба было. Не было іншага выхаду. Знайшла я час зарганізаваць танцавальны гуртох пры школе. Мае вучні здабывалі першыя ўзнагароды на абласных алімпіядах. Танцавалі лявоніху, юрачку, кадрыль, гапака. Прызьязнілася з Люняй. Чуліся мы з сабою добра й гутаркам не было канца.

Прыйшоў 1941 год. Як гром з яснага неба пачулі мы вестку пра новую вайну.

Напярэдадні адступленьня саветаў выклікалі мяне ў сельсавет. Цётка дала мне хустку й параіла ўцякаць у лес. Цэлы дзень там прасядзела. На другі дзень зноў выклікалі, цётка параіла прыкінуцца хворай і легчы ў пасьцель. Так і зрабіла. У гэты-ж дзень прыйшлі Немцы. А тых, якія пайшлі ў сельсавет, расстралялі".

Падрыхтаваў Алесь ВЫСОЦКІ.

# Горад гарадошнікаў і футбола

**Наўрад ці знойдзецца яшчэ горад, у якім гарадкі маглі б канкурыраваць з футболам. А ў Маладзечне такое было.**

Гадоў трыццаць таму назад пляцоўкі для гульні ў гарадкі знаходзіліся ў левым сектары стадыёна, насупраць Дома фізкультуры "Маладосць". Калі здаралася, што адначасова ішлі гульні на футбольным полі і спаборніцтвы на гарадошных пляцоўках, то можна было яшчэ паспрачацца, дзе больш было балельшчыкаў.

Не ведаю, хто і калі пачаў культываваць у горадзе гэты народны від спорту, але, мяркую, не апошнюю ролю ў гэтым адыграла тое, што "слабасць" да гэтай гульні меў колішні старшыня гарадскога камітэта па фізкультуры і спорце **Леанід Сталбавенка**. Любіў пагуляць у гарадкі і шматгадовы "гаспадар" стадыёна **М.Паўлючэнка** – чалавек без узросту, для ўсіх – ад малых да сталых – "дзядзька Міша". Таму не было ніякіх праблем аматарам пакідаць бітамі з доступам да пляцовак і атрымаць неабходныя для гульні камплекты гарадкоў. Апроч спаборніцтваў, у гарадкі гулялі проста так, "на піва", ішлі ў заклад на мацнейшага. Асвятлення на стадыёне ў той час не было, і здаралася, калі гульня зацягвалася, а на дварэ сцямнее, то на гарадкі клалі зверху акуркі і ўжо па іх агеньчыках выбівалі апошнюю фігуру "пісьмо", каб вызначыць пераможцу.

Аўтар гэтых радкоў далучыўся да судзейства спаборніцтваў па гарадках падчас студэнцкіх канікулаў і мог непасрэдна назіраць, як напрыканцы 50-х – пачатку 60-х гадоў ішлі да сваіх вяршыняў будучыя масцітыя майстры спорту па гэтым відзе **Сямён Адзінцоў, Іван Сыракваш, Павел Сталбавенка** і іншыя.

Па меры таго, як гульня набывала ўсё больш прафесійны ўзровень, гораду не ў фантазіях Астапа Бэндара аб Нью-Васюках, а наяве свяціла рэальная перспектыва стаць гарадошнай сталіцай рэспублікі.

Спартсмены з Маладзечна сталі складаць касцяк зборнай каманды рэспублікі па гарадках на ўсесаюзных спаборніцтвах.

Пераканаўчым сведчаннем прызнання высокіх дасягненняў маладзечанцаў у гэтым відзе спорту быў аказаны ў 70-х гадах (1976) гораду гонар правесці ў сябе чэмпіянат СССР па гарадках сярод юнакоў. Але для гэтага патрэбна было ў сціслы тэрмін зрабіць амаль немагчымае – пабудаваць гарадошныя корты, якія б адпавядалі стандартам для правядзення спаборніцтваў такога ўзроўню. Першая ўмова – наяўнасць не менш шасці сучасных гарадошных пляцовак, на якіх адначасова маглі б памерацца сіламі шэсць і больш камандаў.

Пры актыўнай падтрымцы гарадскіх улад і дзякуючы энергічным намаганням старшыні гарспорткамітэта **К.М.Казака**, гэтая задача была вырашаная. Метадам "народнай будоўлі" ў старым парку каля вуліцы Чайкоўскага быў пабудаваны гарадошны стадыён. Будаўнічы трэст спланаваў бульдозерамі пляцоўкі, завод металаканструкцый выдзеліў неабходных памераў стальныя лісты, энергетыкі зрабілі асвятленне, іншыя



Народны від спорту гарадкі «прапісаўся» ў Маладзечне з канца саракавых... Фота Ірыны РАБУШКІ.

прадпрыемствы паставілі металічныя сеткі, лаўкі для гледачоў, павільёны для раздзявальняў.

У выніку быў створаны цудоўны гарадошны стадыён, на якім змагаліся за першынство зборныя Масквы, Украіны, Узбекістана, Грузіі і іншых рэспублік. Там трэніраваліся мясцовыя "мэтры" гарадошнага спорту, і далучалася да гэтай гульні маладое пакаленне. Да прыкладу, былі хлопцы з СШ №2, што ўжо ў 9-10 класах насілі значкі "Майстар спорту СССР" па гарадках.

У 1993 годзе ў Маладзечне была створана Міжнародная федэрацыя гарадошнага спорту са штаб-кватэрай у Мінску. У 1994 годзе ў горадзе прайшоў першы чэмпіянат Еўропы па гэтым відзе спорту.

**Да футбола ў горадзе заўсёды ставіліся з павагай. Папулярнасці яго спрыялі і аб'ектыўныя фактары.**

Так як Маладзечна было абласным цэнтрам, то тут праводзіліся штогадовыя абласныя спаборнітвы па гэтым відзе спорту як на ўзроўні зборных каманд раёнаў, так і ў рамках абласных таварыстваў "Ураджай", "Спартак", "Чырвоны сцяг" і інш.

Традыцыйна моцнымі сапернікамі маладзечанцаў былі каманды з Пастаў, Вілейкі, Ашмянаў, Валожына. Але былі і раёны, якія нават не маглі прывезці на гульню патрэбных адзінаццаць гульцоў. Тады на выручку, за адпаведную ўзнагароду ці проста са спартыўнага інтарэсу, прыходзілі ў якасці падстаўных футбалістаў геляноўскія падлеткі.

Далучыце да гэтага яшчэ штогадовае першынство горада па футболу, у якім удзельнічалі каманды чыгуначнага вузла "Лакаматыў", завода "Спадарожнік" – "Хваля", трэста "Маладзечнасельбуд" — "Будаўнік", завода ЖБВ — "Бетоншчык", мэблевай фабрыкі – "Селена", аўтабазы №2 — "Аўтамабіліст", футбалісты станказавода, завода металаканструкцый, фабрыкі музінструментаў і іншых прадпрыемстваў.

Так што футбольныя гульні на стадыёне практычна не перапыняліся з вясны да восені.

Блізкасць да Мінска і адносна добры стан поля на гарадскім стадыёне спрыялі даволі частаму правядзенню ў Маладзечне сустрэч першынства СССР па футболу сярод дублёраў напярэдадні гульні асноўных складаў каманд майстроў на мінскім стадыёне "Дынама".

Час ад часу ладзіліся таварыскія сустрэчы зборнай каманды Маладзечна з мінскім "Дынама". У адным з такіх матчаў маладзечанцы маглі бачыць на сваім полі славутага варатара **Аляксея Хоміча**, якому мясцовы нападаючы **У.Чарнышоў** забіў нават гол. Хоміч быў сапраўднай зоркай не толькі савецкага, але і сусветнага футбола. Праўда, на той час ён ужо завяршаў сваю футбольную кар'еру ў мінскім "Дынама", саступіўшы месца ў варотах маскоўскага "Дынама" і зборнай СССР свайму пераемніку **Льву Яшыну**.

Усе вышэйзгаданыя фактары садзейнічалі не толькі папулярнасці футбола, але і фарміраванню ў маладзечанцаў даволі высокіх надзей і патрабаванняў да класа гульні свайёй каманды. І яны нярэдка апраўдваліся.

Упершыню маладзечанцы "засвяціліся" на рэспубліканскай футбольнай арэне ў 1949 годзе, дзе, калі выступалі ў спаборніцтвах V Усебеларускай спартакіяды, каманда "Дынама" заняла трэцяе месца. Са старэйшага пакалення футбалістаў асаблівай павагай карысталіся раней згаданы Уладзімір Чарнышоў, абаронца **Усевалад Раўба**, паўабаронца **Аляксандр Гарбылёў**. Маёр міліцыі А. Гарбылёў настолькі быў аддадзены футболу, што кожную вясну браў адпачынак на службе, каб паехаць у Сочы ці Крым і асабіста назіраць, як рыхтавалася на паўднёвых палях да чарговага першынства СССР мінскае "Дынама". Потым ён прафесійна звяжа свой лёс з футболам і стане начальнікам гэтай беларускай каманды майстроў. У 1959 годзе зборная каманда футбалістаў Маладзечанскай вобласці заваявала Кубак БССР. Праз два гады, у 1961 і 1962 гадах, маладзечанскі "Спартак" зойме 2-е месца на чэмпіянаце рэспублікі, у 1963 годзе стане чэмпіёнам БССР. Далей замацуе поспех маладзечанская каманда "Нарач", якая ў 1964 годзе стане ўладальнікам Кубка рэспублікі па футболу і фіналістам Кубка СССР сярод працоўных калектываў.

У 1972 годзе маладзечанская каманда "Селена" заняла 2-е месца ў сваёй падгрупе на першынстве рэспублікі. Добрую памяць аб сабе пакінула футбольная каманда пад назвай "Металург". У 1981 і 1990 гадах яна заваявала Кубак БССР па футболу. Асабліва "зорным" быў для "Металурга" 1991 год, калі гэтая маладзечанская каманда пад кіраўніцтвам вядомага футбаліста **Сяргея Бароўскага** стала чэмпіёнам БССР, уладальнікам Кубка рэспублікі і Кубка СССР па футболу сярод каманд працоўных калектываў.

Але былі і заняпады ў выступленнях футбалістаў, і тады гарадскія ўлады прымалі меры, каб выправіць становішча, у тым ліку для ўзмацнення каманды запрашаліся іншагароднія спартсмены. Так, напачатку 60-х гадоў у Маладзечна разам з трэнерам была запрошана група футбалістаў з Калінінградскай вобласці. Некаторыя гульцы потым назаўсёды звязалі свой лёс з горадам. Не назавеш удалымі выступленні гарадской каманды ў апошнія гады. У 2002 годзе камандзе "Маладзечна-2000", напрыклад, прайграўшай 20 з 26 гульняў застаўся толькі перадапошні радок у турнірнай табліцы розыгрышу першынства рэспублікі па футболу. Па ўсім відаць, наспеў час прымаць нейкія кардынальныя захады, каб вярнуць былыя раней дасягненні.

Асобна хочацца сказаць пра стадыён. Да пачатку 70-х гадоў ён быў прыктычна адзінай у горадзе спартыўнай базай. Гэта пазней, у 1970 годзе, будзе здадзены ў эксплуатацыю ДФК "Маладосць" з гімнастычнай залай і першым басейнам. У 1972 годзе будзе пабудаваны лёгкаатлетычны манеж. Потым з'явяцца залы для трэніровак і спаборніцтваў барцоў, штангістаў і іншых катэгорый спартсменаў.

Спартыўнае ядро стадыёна месціла, апроч футбольнага поля, высыпаную дробным шлакам, бегавую дарожку, пляцоўкі для скачкоў у вышыню, даўжыню і з шастом, валейбольную і гарадошную пляцоўкі. У паўднёвым сектары былі баскетбольная і яшчэ адна валейбольная пляцоўкі, кругі для кідання дыска і молата, штурхання ядра. Каля раздзявалкі ў летні сезон ўстанаўліваўся памост для штангістаў.

Жыццё на стадыёне не перапынялася і зімой. Залівалася дарожка для канькабежцаў, на футбольным полі — пляцоўка для гульні ў рускі хакей з мячом. Хакей з шайбай у тыя часы быў яшчэ нечым далёкім, канадскім. Па вечарах і ў выхадныя дні каток на стадыёне быў самым прывабным месцам для дзяцей і моладзі. Іх цягнула туды, як магнітам. Да самага позняга вечара праз радыёвузел гучала музыка. У раздзявалцы без усялякага страху за захаванасць можна было пакінуць вопратку і абутак, пагрэць рукі каля напаленай да чырвані жалезнай печы-"буржуйкі".

За пасляваенны час у стадыёна сёння трэцяе аблічча. Спачатку ён быў абнесены драўляным плотам, а замест трыбунаў былі простыя тры рады лавак на укопаных слупках. У пачатку 70-х гадоў, калі яго перадалі на баланс мэблевай фабрыкі і добра зайграла футбольная каманда "Селена", былі пабудаваны больш-менш ужо прыстойныя трыбуны. Сучасны выгляд стадыён абраў пасля апошняй, найбольш значнай рэканструкцыі ў пачатку 90-х гадоў. Вось толькі пустуе часта гэтае дарагое спартыўнае збудаванне.

**Міхаіл ФІЛІСТОВІЧ,**
**кандыдат гістарычных навук.**

■ ГАРАДКІ

# Каманда-пераможца

**З найлепшым дасягненнем за ўсе часы вярнуліся з Ніжняга Ноўгарада маладзечанскія гарадошнікі.**

Каманда ў складзе **Генадзя Сушко, Дзмітрыя Шайко** (абодва працуюць на Маладзечанскіх электрасетках), **Аляксандра Яршэвіча, Аляксандра Карповіча** (абодва – ЗАТ "Кэмпі"), **Аляксандра Гарошкі** (ЗАТ "Маладзечнамэбля"), а таксама Юрыя Багмута з Бярозаўкі, які быў запасным, стала пераможцай першага этапа розыгрышу Кубка Еўропы, што праводзіўся ў закрытым памяшканні.

Як звычайна, спачатку прайшоў асабісты турнір. Тройку прызёраў склалі расіяне. Са звышвысокім вынікам 111 бітаў першынстваваў Уладзімір Песцераў. Далей размясціліся малавядомыя на такім узроўні гарадошнікі: Сяргей Красноў (116) і Уладзімір Калеснікаў (117). Выдатны вынік, 118 бітаў, паказаў Сушко, але стаў толькі пятым. Яршэвіч згуляў 122 біты, Карповіч – 124, мінчанін Ігар Лімберг – 125.

У камандней барацьбе сёлета таксама будзе весціся агульны залік па суме ўсіх этапаў. Расію будуць прадстаўляць федэральныя акругі. У Ніжнім сабраліся 12 калектываў – 9 расійскіх, 2 беларускія і 1 украінскі. Спачатку яны былі разбіты на 4 групы.

Другая наша каманда ў складзе Лімберга, маладзечанцаў **Юрыя Найлаўца, Аляксандра Кулака**, бярозаўцаў Анатоля Урбана, Пятра Чаркоўскага саступіла Санкт-Пецярбургу 1:3, Уралу 0,5:3,5 і выбыла з барацьбы.

Для нашых лідэраў спаборніцтвы пачаліся з нескладаных матчаў. У групе пераўзышлі Сібір 3:0 і Паўночны Захад 3,5:0,5, і ў чвэрцьфінале вельмі ўпэўнена – Паволжжа 3:0. А потым наступіў час перамагаць фаварытаў.

Вельмі цікавай і ўпартай атрымалася паўфінальная сустрэча з мацнейшай зараз расійскай камандай з Поўдня, у чыім складзе заслужаныя майстры спорту Васіль Духанін і Мікалай Нікіцін. Нашы перамаглі ў першай партыі, сапернікі – у чацвёртай, а ў астатніх партыях былі нічыі. Такім чынам, пры ліку 2,5:2,5 прыйшлося занясца булітамі. Шайко, Сушко і іх працуюнікі не схібілі, а вось пасля ўдалых дзеянняў Яршэвіча памыліўся Нікіцін.

У фінале нашым супраціўстаяў Урал, у складзе якога чатыры кандыдаты ў першую зборную Расіі. Спачатку саступілі, потым у двух партыях перамаглі, потым была нічыя, а ў рашаючай партыі ўзялі верх. Вынік 3,5:1,5.

Так наш збалансаваны па складу, а разам з тым перспектыўны па ўзросту калектыў упершыню выйграў камандныя спаборніцтвы. Лепшым быў Яршэвіч, лідэрамі сябе праявілі Сушко і Шайко. Успомнім, у снежні на чэмпіянаце Еўропы ў закрытым памяшканні каманда ўдала выступіла, стаўшы трэцяй, але тады не змаглі выступіць Шайко і Гарошка. Зараз яны ўзмацнілі склад.

Безумоўна, апошнім удалым стартам садзейнічала пастаянная гульнявая практыка, якую беларускія гарадошнікі займелі летась, калі стаў праводзіцца клубны чэмпіянат краіны. Якаснаму выступленню менавіта ў закрытых памяшканнях садзейнічала нядаўна з'явіўшаяся магчымасць планамерна трэніравацца ў СШП№2. Дапамаглі камандзе гарадскі аддзел і абласное ўпраўленне ФКСіТ, праўда, прыжываць і рабіць стартавы ўзнос прыйшлося за свой кошт. Наперадзе другі кубкавы этап. Як і летась, ён пройдзе ў Маладзечне на адкрытых пляцоўках. Гэта будзе традыцыйны турнір памяці ахвяраў Чарнобыля. Тэрміны: 22-26 красавіка.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**



**Каманда Маладзечанскіх электрасетак на другім этапе Кубку Еўропы па гарадках, што праходзіў летась у Маладзечне. Тады зборная, складзеная з Генадзя Сушко, Аляксандра Філістовіча, Дзмітрыя Шайко і Ігара Бладыкі, заняла другое месца.** Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

■ ЮНАЦКІ ФУТБОЛ

## Выйгралі дамашні турнір

**МАЛАДЗЕЧНА. Адбыўся турнір на снезе сярод хлопцаў 1987 г.н. на прыз абласной федэрацыі футбола, прысвечаны 25-годдзю Маладзечанскай ДЮСШ.**

У першы дзень каманды гулялі на гарадскім стадыёне, а потым перабраліся на поле СШ№5. Прыемна, што "паляны" былі якасна падрыхтаваныя да матчаў дзякуючы дапамозе ФК "Маладзечна-2000" (тэхнічны дырэктар **Ігар Старавойтаў**).

Спачатку быў групавы турнір. 1. ДЮСШ-Хімвалакно (Магілёў) – 0:0 – 7 ачкоў. 2. ДЮСШ (Маладзечна) – 5. 3. МТЗ-РІПА (Мінск) – 1:1 – 4. 4. ДЮСШ-Нафтан (Наваполацк) – 3:1 – 0. Потым былі фіналы. У спрэчцы за 1 месца гаспадары перамаглі магіляўчан 1:0, а 3-е месца пасля выйгрышу з тым жа лікам дасталося мінчанам.

На шляху да выніковай перамогі самымі складанымі для падапечных **Валерыя Вятрова** былі абедзве сустрэчы з "хімікамі". У матчы групавога турніру абедзве каманды не рэалізавалі па адным пенальці, дарэчы, удар саперніка парыраваў наш варатар **Аляксей Шукелойць**, які на год малодшы за астатніх удзельнікаў. У фінале дабіліся поспеху дзякуючы голу **Мікіты Дудко**. У складзе можна адзначыць **Сяргея Русецкага**, прызнанага лепшым абаронцам турніру, і нападаючага **Дзмітрыя Вараўку**, які двойчы забіў навапалачанам.

Толькі стартавы матч правялі трое лідэраў калектыву **Станіслаў Баламут, Міхаіл Лужынскі** і **Андрэй Фёдараў**. Потым яны ў складзе зборнай вобласці выступалі на рэспубліканскім турніры ў сталічным манежы, дзе занялі 3-е месца.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ КОНКУРС

## Чэмпіянат сям'і Сярпейкаў

На другім этапе пытанні аказаліся больш складанымі. Найлепшы вынік — 4 правільныя адказы ў чатырох удзельнікаў. У табліцы дадзены іх прагнозы на матчы спачатку "Рэал" - "Мілан", потым "Барусія" - "Лакаматыў".

| | | |
|---|---|---|
| Віталь Скаскевіч | 2:0 | 1:1 |
| Вадзім Сярпейка | 1:2 | 2:1 |
| Міраіда Сярпейка | 2:0 | 1:0 |
| Павел Сярпейка | 1:1 | 2:1 |

3 правільныя адказы далі маладзечанцы **Міхаіл Дорскі, Вячаслаў Курбака, Вячаслаў Сазонаў, Дзяніс Ротміраў**, вілейчанін **Аляксандр Вярбіцкі**, смаргонец **Мікалай Кіндра**. Па суме двух этапаў лідзіруюць: П. Сярпейка – 9; Вярбіцкі, Скаскевіч, В. і М. Сярпейкі – па 8.

Правільныя адказы на пытанні другога этапа.

Конны спорт – Г. Лёгкая атлетыка – Г. Мотабол – Б. Нарды – Б. Плаванне – А. Рынга – В.

**Пытанні трэцяга этапа.**

**Стральба.** Якую найбольшую колькасць ачкоў можна выбіць адным стрэлам у фінальнай серыі?

А – 9,9. Б – 10,0. В – 10,9. Г – 11,0.

**Тэніс.** У парнай гульні пры ліку 15:30 у нейкім з геймаў розыгрыш мяча выйграла пара, якая "стаяла" на прыёме. Хто з тэнісістаў будзе выконваць наступную падачу?

А – той, хто падаваў пры 15:30. Б – партнёр таго, хто падаваў пры 15:30. В – той, у чый квадрат ішла падача пры 15:30. Г – партнёр таго, у чый квадрат ішла падача пры 15:30.

**Універсіяда.** Калі праходзіць летняя?

А – 1 раз у 2 гады па няцотных гадах. Б – 1 раз у 2 гады па цотных гадах. В – 1 раз у 4 гады за год да летняй Алімпіяды. Г – 1 раз у 4 гады ў год летняй Алімпіяды.

**Футбол.** Што будзе, калі мяч са свабоднага ўдару заляціць у свае вароты?

А – будзе залічаны аўтагол. Б – сапернік атрымае права на вуглавы. В – трэба будзе паўтарыць свабодны ўдар. Г – права на свабодны ўдар з таго ж месца атрымае сапернік.

**Хакей.** Хто пакідае мацнейшую групу па выніках чэмпіянату свету?

А – 1 зборная; абавязкова тая, што стане апошняй. Б – 1 зборная; не абавязкова тая, што стане апошняй. В – 2 зборныя; абавязкова тыя, што стануць апошнімі. Г – 2 зборныя; не абавязкова тыя, што стануць апошнімі.

**Шахматы.** Няхай любая фігура, што стаіць на полі е4, не мае перашкод, каб пахадзіць у любым напрамку і на любую адлегласць. У такім выпадку, якая фігура, што стаіць на е4, мае найбольшую колькасць магчымых хадоў?

А – кароль. Б – конь. В – ладдзя. Г – слон.

**Дадатковыя пытанні.** З якім лікам завяршацца 18 сакавіка матчы футбольнай Лігі Чэмпіёнаў "Мілан" - "Барусія" і "Лакаматыў" - "Рэал"?

Адказы на пытанні трэцяга этапа прымаюцца да **панядзелка, 17 сакавіка**, уключна. Іх можна дасылаць на адрас рэдакцыі (з паметкай "Спартыўны конкурс"), можна дасылаць электроннай поштай на адрас konkurs@tut.by.

Мы ў рэдакцыі будзем рады, калі, разам з адказамі на конкурс, удзельнікі напішуць свае меркаванні аб спартыўнай старонцы "РГ". Якія матэрыялы імкнецеся не прапусціць? На якія матэрыялы не звяртаеце ўвагу? Што хацелі б чытаць у большым аб'ёме? Выказвайце, калі ласка, свае прапановы, ідэі.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ФУТБОЛ

## Зацверджаны каляндар

**Папярэдне зацверджаны каляндар вышэйшай і першай лігаў.**

Маладзечанцы распачнуць чэмпіянат двума выязнымі матчамі 12-га красавіка з барысаўскім БАТЭ і 18-га з мінскім "Дынама". Смаргонцы на старце 19-га чысла таксама паедуць у госці да "Вертыкалі" з Калінкавічаў.

Кантрольныя матчы.

27 лютага. Манеж. 2 таймы па 50 хвілін.

Маладзечна-2000 – Тарпеда (Жодзіна) 3:2 (2:0)

Галы: Макрыцкі (26, 47), Векшын (87); (74), (95)

1 сакавіка. Манеж.

Маладзечна-2000 – МТЗ-РІПА (Мінск, Д2) 1:4 (гол – Урублеўскі)

Гарадскі стадыён. Маладзечна-2000 (дубль) – ВАР (Смаленск) 1:2 (гол – Грыхуцік)

Аўтар гола жодзінцам паўбаронца 1982 г.н. **Вячаслаў Векшын** раней гуляў у іх дублі, а зараз у "Маладзечна-2000" на прагляддзе. Развітаўся клуб з Аляксеем Рубацкім. Траўміраваны **Руслан Азаронак, Сяргей Сідарэнка, Васіль Смірных**.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

**Табло**

■ БІЛЬЯРД

МАЛАДЗЕЧНА. У чэмпіянаце горада па "пірамідзе" прынялі ўдзел 40 чалавек. Плэй-оф пачаўся з 1/8 фіналу. У чвэрцьфінале сустрэліся **Ігар Агузаў** і **Уладзімір Патапаў**. Агузаў перамог 4:2, а ў далейшым не саступіў ніводнай партыі і стаў пераможцам турніру.

Паўфіналы. Ігар Агузаў – Аляксандр Багамолаў 4:0, Мікалай Платонаў – Мікалай Валаскові 4:2. Фінал. Агузаў – Платонаў 5:0.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ІНВАСПОРТ

Чэмпіянат Мінскай вобласці па настольным тэнісе сярод інвалідаў-апорнікаў прайшоў у Барысаве.

Чацвёра маладзечанцаў са спартыўнага клуба "Прамень" выязджалі туды пры падтрымцы гарадскога аддзела па фізічнай культуры, спорту і турызму. Перамога засталася за імі. Сярод жанчын перыншынствавала Вольга Грынько, а сярод мужчын – Руслан Вірынскі. Сяргей Гудовіч быў трэцім.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

